# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 33 (1016) ГОД XX 17 ЖНІЎНЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.




## СЛЕДАМ ЛЕТА

*Ужо ў ляшчэўніку імглістым*
*паціху спеюць спарышы.*
*Бурштынным інеем іглыцы*
*сцяжыну бор зацерушыў.*

*Цецерuчыная паляна*
*зялёна дрэмле да пары,*
*пакуль расою не гарыць*
*зара ў брусьнічніку каляным.*

*Ідзе багуннік ап'янелы*
*па ямінах,*
*па карчаўі.*
*Там галубіцы сокам спелым*
*дурманіць лета пачалі.*

*Туман ці дым*
*ва ўсю буяе*
*ля стрыжняватага камля...*
*Мой кут —*
*бацькоўская зямля —*
*мяне, як песня,*
*напаўняе.*

**Генадзь Пашкоў**

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА




„У Вас, сіньёра, залаты голас. Яго дала Вам прырода вашай радзімы. Сцеражыце яго“. Гэтыя словы маладая беларуская спявачка Ірына Шыкунова пачула ад маэстра Артура Мерліні падчас сваёй стажоўкі ў Італіі, на сцэне праслаўленага міланскага тэатра „Ла Скала“. Так, педагог не памыліўся: беларуская зямля з яе бясконцымі ляснымі прасторамі, блакітнавокімі азёрамі, сінімі жылінкамі рэчак, падарыла дзяўчыне голас. Родная зямля, аб якой складаюць паэмы ды легенды і якую здаўна называюць „спеўнай“. Ці не таму так здзіўляюча проста, шчыра, паэтычна спявае Ірына родныя песні? У іх чуецца радасць і сум, глыбокі смутак і неўгамонная весялосць. І заўсёды пры гэтым адчуваеш асалоду; разам з тым у выкананні Ірыны Шыкуновай паэтычнасць народнага мастацтва ўдала спалучаецца з прафесіянальнай музыкальнасцю.

З першых жа крокаў у мастацтве спявачка паставіла перад сабою вялікую жыццёвую мэту — служыць музыцы. Здавалася б, маладосць, чароўнасць асобы, серабрысты голас — усё гэта ўжо надзейна забяспечвала ёй поспех у слухачоў. Але спявачка не дапускае думкі аб лёгкім поспеху. Яна ведае, што толькі сур'ёзная работа дазволіць ёй увайсці ў свет музыкі Вердзі, Бізе, Чайкоўскага, Пракоф'ева... Хутка прамінулі гады вучобы ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі ім. Луначарскага, дзе Ірына авалодала тайніцамі вакальнага мастацтва і опернага мастацтва. Пачалася новая пара: актыўная творчая работа на сцэне опернага тэатра.

За дзесяць гадоў спявачка выканала нямала разнастайных роляў. Сярод іх — глыбока адчуваючая, непахісна верачая ў дабрату чалавека Таццяна, спрытная і свавольная, але чыстая сэрцам і душою Катарына; прастадушная, адданая свайму каханню Мікаэла, чароўная Сюзанна; гордая і помслівая Донна Анна; гарачая і страсная Неда, няздольная абараніць сваё каханне спакойна-паэтычная Марфа; хвалюючая, бясконца жаночая Мімі. Якія розныя характары, складаныя і супярэчлівыя! І для кожнага з іх спявачка знаходзіць непаўторныя фарбы.

І Шыкунова належыць да ліку тых мастакоў, якія не абмяжоўваюць сябе нейкім акрэсленым колам вобразаў. Ёй з'яўляецца блізкім многае. Да таго ж прырода шчодра узнагародзіла спявачку не толькі прыгожым голасам, артыстычнасцю, але і несумненным драматычным талентам. Усё гэта дазваляе ёй жыць на сцэне жыццём яе гераінь.

Успамінаючы аб занятках з А. Мерліні і канцэртмайстрам А. Пастарына, спявачка кажа:

„Займалася вельмі многа ў класах, вучылася на спектаклях у вядомых майстроў опернай сцэны. Працавалі над гукам, інтэрпрэтацыяй, выразнасцю. А галоўнае — над вобразам, дабіваючыся натуральнасці і праўдзівасці ў яго трактоўцы“. І дадае: „Якое гэта шчасце, калі табе ўдаецца пранікнуць у глыбіню кампазітарскай задумы, перадаць самыя тонкія адценкі парываў душы тваіх гераіняў!“

Менавіта, да таго і імкнецца спявачка ва ўсіх сваіх працах.

З асаблівай сілай выяўляецца артыстычны талент Ірыны ў ролях з беларускіх нацыянальных опер. Такая, напрыклад, маладая партызанка Марфачка з оперы Е. Цікоцкага „Алеся“. У выкананні І. Шыкуновай яна ўяўляецца то па-дзіцячаму наіўнай, то мужнай і рашучай. Як жа пранікнёна спявае яна песню Марфачкі, выяўляючы пачуцці вялікай любові да роднай зямлі і трывогу за лёс баявых сяброў.

Духам блізкі спявачцы аказаўся і вобраз Арыны з тэле-оперы кампазітара Г. Вагнера „Раніца“ (паводле паэмы


Ірына Шыкунова пасля канцэрта.

Пуцяводныя думкі

*Чалавек свабодны ні аб чым так мала не думае, як аб смерці, і яго мудрасць заключаецца ў роздуме не аб смерці, а аб жыцці.*

**Б. Спіноза**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“



## БІЯГРАФІЯ ЧАЛАВЕКА

Як вада ў рэках, непрыкметна плывуць гады.

Максім Рудчык з Волькі Нурэцкай, што ў гміне Нурэц, пражыў 73 гады і, як сцвярджае, зусім гэта не здоўжылася. Успамінае ён сваё дзяцінства, маладосць, падзеі таго часу і нібы ўчора ўсё гэта было. А цяжкі час быў для людзей і для Максіма Рудчыка. На ўсё жыццё ўрэзаліся яму ў памяць тыя дні, калі яго бацькі са сваімі дзяцьмі (ён быў 12-гадовым хлапчуком) пакідалі родны кут і, як бежанцы, вандравалі па Расіі. Жылі яны ў Чалябінскай вобласці. Максім хадзіў у школу. А калі ўжо перамагла сацыялістычная рэвалюцыя, накіраваны быў ён на так званыя „курсы чырвоных настаўнікаў“. Там ён, між іншым, атрымоўвае добрую палітычную падрыхтоўку, там крышталізаваўся яго светапогляд, які будзе спадарожнічаць яму ўсё жыццё.

Пасля прыйшоў час, калі бежанцы, нібы тыя птушкі да сваіх гнёздаў, сталі вяртацца ў свае родныя вёскі вёскі. Вярнулася ў Вольку Нурэцкую і сям'я Рудчыкаў. І вось тады жыццё стала бязлітасным. Ад нуля трэба было пачынаць гаспадарыць. Ды вось у гэты час паміраюць яму спачатку бацька, а потым і маці. Максім Рудчык знаходзіць сабе спадарожніцу жыцця, Пелагею Кас'янюк з Мікуліч, і ад пасажнай капы намалочанага жыта распачаў цяжкі шлях селяніна ў панскай Польшчы. Дзякуючы ўпартасці і працавітасці, дзякуючы веры ў жыццё і любові да яго, памаленьку „становяцца яны на ногі“. Узнімаўся тады народ да барацьбы. Арганізавалася падполле, адным з актыўных членаў якога быў Максім Рудчык. Пачаткова — у радах НПЗ, а затым у радах КПЗБ, разам з іншы-

(Працяг на стар. 2)


*Кіраўнік арганізацыйнага аддзела ВК ПАРП Рышард Кавальскі ўручае Максіму Рудчыку залатую адзнаку „Заслужаны Беласточчыне“.*
*Фота С. Грынявіцкага.*



*Сцэна са спектакля В. Моцарта „Дон Жуан" у пастаноўцы Беларускага акадэмічнага тэатра оперы і балету. У ролях: Донны Анны — заслужаная артыстка Беларускай ССР І. Шыкунова, Дона Жуана — заслужаны артыст Беларускай ССР А. Саўчанка.*

А. Куляшова). Перад намі паўстае цяжкі лёс жанчыны, гвалтоўна выданай замуж за зненавіджанага кулака Касенка. Слухаеш Ірыну Шыкунову, і здаецца, што ўвабрала яна ў сябе ўсе лепшыя рысы беларускіх жанчын, якія ўмеюць кахаць, прабачаць і ненавідзець.

Кожная новая роля дапамагае артыстцы знайсці новае мастацкае выражэнне, выявіць новыя грані таленту. Так адбываецца сталасць, прыходзіць майстэрства.

Параўнаўча нядаўна з'явілася імя спявачкі на нашых афішах, а сёння аб ёй гавораць аматары музыкі і прафесіяналы. Ірына Шыкунова стала лаўрэатам конкурсу маладых вакалістаў рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі. У складзе канцэртных брыгад яна выязджала ў Фінляндыю, Германскую Дэмакратычную Рэспубліку, Польшчу, дзе знаёміла слухачоў з лепшымі творамі беларускіх кампазітараў, спявала любімыя арыі. На аглядзе-конкурсе оперных тэатраў краіны спявачка двойчы была ўдастоена прэмій за лепшае выкананне роляў Маргарыты ў оперы Гуно „Фауст" і Мзіі ў оперы А. Тактакішвілі „Міндыя".

Але для спявачкі мінулыя гады — усяго толькі пачатак таго вялікага шляху, на якім кожнае імгненне, кожны дзень будзе аддадзены мастацтву. Зарукай таго— творчы парыў, несупакоенасць, унутраная нецярплівасць і пастаянныя пошукі артысткі. Голас заслужанай артысткі Беларускай ССР Ірыны Шыкуновай часта гучыць са сцэны опернага тэатра, у перадачах па тэлебачанню і радыё практычна няма такой старонкі беларускай музыкі, якую б не ажывіла Ірына Шыкунова.

**Іна Зубрыч**

Фота — **Э. Трыгубовіча**



*Ірына Шыкунова (злева) у Фінляндыі. 1968 год.*

**(Працяг са стар. 1)**

мі, вядзе ён палітычную прапаганду, выконвае даручаныя заданні, распаўсюджвае марксісцкую літаратуру. Не магла запалохаць КПЗБ-оўцаў паліцыя, не маглі паўстрымаць іх дзейнасці — ні арышты, ні здзекі дэфензівы. Максіма Рудчыка таксама забірала паліцыя, над ім таксама здзекваліся. Але калі трэба было абараняць краіну ад немцаў у 1939 годзе, Максім Рудчык быў мабілізаваны і пасланы на фронт супраць немцаў і бачыў ён, як панская ўлада ўцякала заграніцу, зусім не супрацьстаўляючыся ворагу.

Пасля вызвалення адкрываецца новая карта дзейнасці былога КПЗБ-оўца. З першых дзён народнай улады ён актыўна падтрымоўвае яе. Уступае ў рады ППР, узначальвае ў сваёй вёсцы ўзброенае ОРМО, якое некалькі разоў адганяла банду. Пасля ўключаецца ў дзейнасць па лініі сялянскай самапомачы. Працуе на пасадзе прэзаса ГС у Клюковічах, затым — у Нурцы. А калі пайшоў курс на арганізаванне спулдзельняў прадукцыйных, Максім Рудчык становіцца палымяным арганіза-




тарам іх. Тады, менавіта, утвараецца спулдзельня прадукцыйная і ў Вольцы Нурэцкай. У ёй працуе бухгалтарам, а пасля, 13 гадоў, старшынёю.

У гэты перыяд Максім Рудчык быў удастоены ганаровых партыйных і грамадскіх функцый. З'яўляўся членам пленума Павятовага камітэта ПАРП у Сямяцічах, пазней, членам Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, членам ГП БГКТ і членам шматлікіх камісій. У 1961 годзе грамадскасцю выбарчай Беластоцкай акругі выбіраецца ён паслом у Сейм ПНР.

За сваю ахвярную дзейнасць Максім Рудчык узнагароджаны Кавалерскім крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Залатым крыжам заслугі, Медаллю Тысячагоддзя, Сярэбранай адзнакай „Заслужаны Беласточчыне", а таксама ганаровымі дыпломамі і граматамі.

Нядаўна Максім Рудчык святкаваў залатое вяселле. Па-сённяшняму, як маладую пару, завялі іх у ЗАГС, што ў сядзібе гміны Нурэц. Прачытаны былі ўрачыстыя словы — і Максіма Рудчыка і яго жонку ўзнагародзілі спецыяльнымі медалямі „За доўгае сямейнае сужыццё". Апрача таго, Максім Рудчык быў дэкараваны залатою адзнакаю „Заслужаны Беласточчыне".

Падчас традыцыйнай чары шампанскага тут, у гміне, многа было выказана цёплых слоў пашаны да юбіляраў. А ў яго ўласным, прасторным, новапабудаваным доме 28 чэрвеня адбылося юбілейнае вяселле Рудчыкаў, на якое сабраліся сваякі, прыяцелі, суседзі. І я там быў, і віно піў.

**М. Хмялеўскі**




# АГРЭСІЎНЫЯ ІМКНЕННІ ПЕКІНА

Урадавыя войскі Бірмы, паводле сведчання бірманскага друку, у канцы чэрвеня разграмілі ў раёне бірмана-кітайскай граніцы на поўначы Шанскай дзяржавы буйныя падраздзяленні прапекінскіх мяцежнікаў, якія наступалі з раёна прыгранічнага мястэчка Пансан, да якога з боку Кітая падведзена шасейная дарога. У Бірме на тэрыторыях Шанскай і Качынскай аўтаномных дзяржаў, Чынскай асобай акругі мааісты падтрымліваюць мясцовыя сепаратысцкія сілы, правакуючы іх на выхад з Бірманскага Саюза і далучэнне да Кітая.

На кітайскай тэрыторыі праводзіцца падрыхтоўка ўзброеных атрадаў мяцежных індыйскіх плямён нага і міза, якія пераходзяць індыйска-кітайскую граніцу ў штаце Нагаленд і саюзнай тэрыторыі Мізарам. Іх там узбройваюць, абучаюць вядзенню партызанскай вайны, а затым зноў перакідваюць у Індыю для сепаратысцкіх выступленняў. У пачатку ліпеня індыйскія газеты паведамілі аб дабраахвотнай здачы ўладам узброенай групы так званага падпольнага „нацыянальнага фронту міза". Група, паводле слоў яе верхавода, была сфарміравана, абучана і ўзброена ў Кітаі.

У Таіланд, Інданезію і іншыя краіны Азіі мааісты засылаюць агентаў, зброю, падрыўную літаратуру, падтрымліваюць мааісцкія групоўкі.

Распальванне сепаратызму, падрыў адзінства і раскол нацыянальных, прагрэсіўных рэжымаў як у Азіі, так і ў іншых раёнах свету — гэта адзін са сродкаў, што ўжываюцца Пекінам для ажыццяўлення свайго агрэсіўнага знешнепалітычнага курсу. Апрача гэтага, для дасягнення экспансіянісцкіх мэт Пекін таксама выкарыстоўвае сваю армію, аб чым сведчаць яго ўзброеныя акцыі ў мінулым годзе на Парасельскіх астравах і астравах Спратлі. Цяпер пад выглядам „дарожна-будаўнічых атрадаў" кітайскія салдаты знаходзяцца ў Непале і Лаосе. Як паведамляе заходні друк, у Лаосе мясцовае насельніцтва называе іх „акупантамі".

Цяперашнія кітайскія кіраўнікі таксама прэтэндуюць на значныя часткі тэрыторыі Манголіі, Карэі, Японіі, Савецкага Саюза. Паводле прыблізнага падліку, агульная плошча тэрыторый, на якія пекінскія лідэры на працягу апошніх дваццаці гадоў выстаўлялі прэтэнзіі, складае 3,2 мільёна квадратных кіламетраў, што роўна амаль адной трэці плошчы самога Кітая.

Своеасаблівым „тэарэтычным" абгрунтаваннем тэрытарыяльных дамаганняў пекінскіх экспансіяністаў служаць шырока вядомыя ў Кітаі і малавядомыя за яго межамі выказванні Мао Цзэ-дуна. „Мы, — гаварыў ён, — абавязкова павінны атрымаць Паўднёва-Усходнюю Азію, уключаючы Паўднёвы В'етнам, Таіланд, Бірму, Малайзію, Сінгапур..." Ён сцвярджаў, што Кітай „павінен стаць першай краінай свету".

Як паказваюць дзеянні Пекіна, мааісты рэалізацыю сваіх агрэсіўных задум звязваюць з пагаршэннем абстаноўкі і пераглядам граніц у Азіі, з барацьбой супраць Савецкага Саюза, які выступае за захаванне міру і забеспячэнне калектыўнай бяспекі ў гэтым раёне.

**М. Якаўлеў**, аглядальнік ТАСС

ГАРАДСКІЯ ЗАРЫСОЎКІ



*Новая бальніца ў Сямяцічах.* Фота *Я. Цялушэцкага.*




**Sobota — 16.VIII.** 10.00 Augustyn Cyprian wkracza do akcji — film ser. CSRS. 15.10 Pr. dnia. 15.15 Pr. I prop. 15.30 Inf., tow., prop. 15.45 Lek. Pegaza. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Nowogród — film dok. 17.30 Za kierownicą. 18.00 Autoportret gminy. 18.25 Legenda Robin Hooda — fil fab. ang. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Finał Pucharu Europy w lekkiejatletyce. 21.55 Dziennik. 22.15 Człowiek z Londynu — film fab. CSRS. 23.45 Przeboje świata.

**Niedziela — 17.VIII.** 8.55 Pr. dnia. 9.00 Dla mł. widzów: Książę Bajaja — film fab. CSRS. 10.20 Antena. 10.40 W Starym Kinie — Flip i Flap. 11.55 Polska leży nad Bałtykiem — teleturniej. 12.50 Koncert fort. B-dur Mozarta. 13.25 Dziennik. 13.45 Tydzień. 14.15 Klub Sześciu Kontynentów. 15.00 Dla dzieci. 15.35 Los. Toto-Lot. 15.50 Refl. ob. 16.05 Z teki folkl. Adolfa Dygacza. 16.40 Komuniści — rep. film. 17.10 Gdzie jest przebój. 17.55 Sopot 74 — rep. 18.10 Niedziela z Anią — film fab. jug. 19.15 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Finał Pucharu Europy w lekkiej atletyce. 21.50 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 22.45 Sport.

**Poniedziałek — 18.VIII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Echo stadionu. 17.25 Teleferie TDC. 18.40 Białe miasto — rep. 19.00 Szare na złote. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Tel.: Andrzej Strug „Sprawa Ewy Ewart". 21.25 Alfabet rozrywki. 22.05 Dziennik. 22.20 Sport.

**Wtorek — 19.VIII.** 9.00 Poranek. 10.00 Nowe przygody Vidocqa — film ser. fr. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pol. Film Dok. 17.40 Nie tylko dla pań. 18.00 Fakty, Op., Hip. 18.35 Lato z pomysłem. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Dowódca łodzi podwodnej — film fab. radz. 22.00 Ekran i życie. 22.45 Dziennik. 23.00 Sport.

**Środa 20.VIII.** 10.00 Dowódca łodzi podwodnej — film fab. radz. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Dziennik. 16.20 Obiektyw. 16.40 Los. Mał. Lot. 16.55 Dwie strony medalu. 17.40 Poligon. 18.00 Na każdym kilometrze — cz. I filmu ser. bułg. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Holandia — Finlandia — eliminacje Mistrzostw Europy w piłcenożnej. 22.05 Świat i Polska. 22.50 Dzien. 23.10 Sport.

**Czwartek — 21.VIII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.10 Inf. tur. 18.45 Czym żyje świat. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Przyp., radz. 20.25 Nieznajomi z pociągu — film fab. USA. 22.10 Pegaz. 22.55 Dziennik. 23.15 Sport.

**Piątek — 22.VIII.** 10.00 Nieznajomi z pociągu — film fab. USA. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.35 Sezam. 17.55 Mała encyklopedia zwierząt. 18.30 Giełda reporterów. 19.05 Wystąpienie Amb. Rumunii. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Festiwal Piosenki w Sopocie — Dni płytowe. 21.20 Panorama. 22.00 Festiwal Piosenki w Sopocie — Dni płytowe. 23.00 Dziennik. 23.20 Sport.




**Piątek 15.VIII** — 8.10 Film fab. 9.15 Koncert. 12.55 Sport. 17.15 Cyrk. 17.55 Film fab. 19.30 Wieczór artystów operetki. 20.25 Śpiewa B. Kirow. 20.50 Sport.

**Sobota 16.VIII** — 8.25 Film fab. 16.45 Pływanie. Puchar Europy mężczyzn. 17.00 Koncert A. German. 17.30 Spektakl. 19.30 Pr. rozr. 20.45 Pływanie. Puchar Europy m.

**Niedziela 17.VIII** — 9.00 Spektakl dla dzieci. 11.35 Film fab. 13.35 Koncert. 16.15 Film anim. 16.25 Klub film. 17.25 Film fab. 19.30 Koncert. 21.00 Pływanie. Puchar Europy.




**Białowieża** Podróże z Jakubem — węg. 19—20. Koniec wakacji — pol. 21—22. Nie unikniesz przeznaczenia — fr. 23—24.

**Czyże** Dowódca łodzi podwodnej — radz. Wakacje we czworo — wł. 20—24.

**Gródek** Ziemia obiecana — pol. 23—24.

**Kleszczele** Zaproszona — fr. 19—20. Przygody Hucka Finna — radz. 21—22. Rodzinny gang — wł. 23—24.

**Michałowo** Spragniona miłości — buł. 19—20. Dwa tysiące odysei kosmicznej — USA 21—22. Liliowa akacja — węg. 23—24.

**Milejczyce** Na rabunek — radz. 19—20. Peppino podbija Amerykę — wł. 21—22. Brat dr Homera — jug. 20—24.

**Narew** Świeć moja gwiazdo — radz. Próba terroru — USA 20—24.

**Narewka** Zła noc — czes. Przygoda z piosenką — pol. 20—24.

**Nurzec** Milion za Laurę — pol. 19—20. Gniazdo — pol. 21—22. Orzeł i reszka — pol. 20—24.

**Orla** Szach królowej brylantów — radz. Wspaniały interes — radz. 20—24.

**Rajsk** Zuzanna i zaczarowany pierścień — NRD. Dramat namiętności — kanad. 20—24.

**Suchowola** Adaś i Ola — czes. Przygoda z piosenką — pol. 20—24.



# „ПАДЛЯШСКІЯ ЗЯЗЮЛІ“

Калектыў песні і танца „Падляшскія зязюлі“ дзейнічае пры Тэхнікуме сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску. Вядзе яго настаўнік Мікалай Турковіч. Калектыў налічвае 69 асоб. Выступаў ён са сваёй займальнай праграмай на цэнтральнай дажынкавай урачыстасці ў Беластоку ў 1973 годзе. Цяпер выступае на ўрачыстых акадэміях у розных установах і на прадпрыемствах з нагоды знамянальных гадавін і дзяржаўных свят.

Калектыў „Падляшскія зязюлі“ карыстаецца вялікай папулярнасцю не толькі ў сваім асяроддзі.

Тэкст і фота
Я. Цялушэцкага

ЧАМУ ДЗЩЯ НЕ ВУЧЫЦЦА РОДНАЙ МОВЕ?

# ТРЭБА ТОЛЬКІ ЗАХАЦЕЦЬ

Уважна прачытаў я артыкул Сакрата Яновіча „Прычына? Самапагарда!“ („Ніва“ ад 15 чэрвеня г.г.). Артыкул, трэба зазначыць, цікавы, дыскусійны і задзёрысты. І, як заўсёды ў гэтага аўтара, многа невыразнага... Возьмем такі прыклад. С. Яновіч піша, што *„школа робіць вялікую крыўду дзецям, калі не дае ім нацыянальнай гордасці...“* Святая праўда! Тут бы аўтару і разабрацца, чаму школа не робіць гэтага? Але не, аўтар пачынае крычаць: *Крыўду ўсяму грамадству. Выпускае, у выніку, грамадскіх калек, якія, не шануючы свайго, пазбаўлены здольнасці шанаваць вартасці таксама і братняга народа, прымаючы іх толькі з практычных меркаванняў. Безамбітныя і біздумныя!“*

Цяпер пайдзі і разбярыся, чаму школа выпускае грамадскіх калек: ці таму, што не прывіла ім любоў да роднай мовы, ці таму, што не вучыць шанаваць вартасці братняга народа? І хто гэта — безамбітныя і біздумныя?

Падобныя выкрутасы перашкаджаюць чытачу зразумець думку аўтара да канца. А шкада. Бо тэма дужа важная. І патрабуе яна не толькі цвяроза-разважлівай думкі, вялікага ведання матэрыялу, але і адпаведнага тону. Хто бачыў, каб на пахаванні аркестр іграў польку або кракавяка?!

С. Яновіч сцвярджае: бацькі так мала зрабілі, што іх дзеці не маюць чым ганарыцца. Большай памылкі быць не можа!

Так, у першую чаргу, ад бацькоў і настаўнікаў залежыць культурны багаж, якім дзеці запасаюцца ў дарогу жыцця. Але не менш важную ролю адыгрываюць у гэтым наш тыднёвік „Ніва“ і БГКТ. З прыкрасцю канстатую факты, якія сведчаць не зусім добра аб гэтых установах. Чытаючы „Ніву“, чытач адчувае сябе ў пачатку дваццатага стагоддзя. Многа ўспамінаў, фактаў мінулага, таго, што адышло. Гэта было б добра толькі тады, калі б рэдакцыя больш друкавала цікавых артыкулаў аб сённяшніх дасягненнях беларусаў.

Даўно паспела пара адну паласу „Нівы“ адпусціць для моладзі. І рабіць гэтую паласу так, каб кожны беларускі хлопец і дзяўчына чакалі яе, як вялікага свята.

Сакрат Яновіч у адрас БГКТ выказаў многа горкіх слоў. Крытыка справядлівая! Бо БГКТ сапраўды дужа слаба дзейнічае. Хіба не памылюся, калі скажу, што ўся ідэя або амаль уся работа БГКТ зводзіцца да арганізацыі фестываў і песенных конкурсаў. Але ж поруч з гэтым ёсць не менш важныя справы. У апошнія гады пахілела выдавецкая дзейнасць. Паэты і літаратары гадамі чакаюць выдання сваіх кніжак. Хто ў гэтым вінаваты. Што зрабіла БГКТ, каб перамагчы перашкоды? Ведаю, выйсце ёсць! Трэба толькі захацець...

Бо калі і далей гэтак пойдзе, то сапраўды, многія будуць саромецца прызнацца, што яны — беларусы!

Уладзімір Малашкевіч,
Забжэ

Урачыста і радасна адбывалася на Беласточчыне святкаванне 30-ай гадавіны перамогі над нямецкім фашызмам. Менш урачыста, па-сямейнаму святкавалі гэты юбілей Зенобі Фірсовіч і яго дачка Анастасія на калёніі ў Відаве, і яе брат Шыман — афіцэр Польскай арміі. Гэтыя людзі, хоць мала хто пра гэта ведае, таксама змагаліся з нямецкімі захопнікамі. Яны былі членамі партызанскага атрада.

Даведаўся я аб тым выпадкова. Даведаўся і падумаў, што трэба пра іх напісаць. У адну нядзелю паехаў я ў Відава. Невялікі, жоўта памаляваны дом, можна было заўважыць з самой шашы.. Навокал дома зялёныя дрэвы і кусты.

Цётка Насця якраз прывяла каровы з пашы. Яны добра дагледжаны. Адразу відаць гаспадарскую жаночую руку. Здароўкаемся. Гаворым аб тым — сім. Потым тлумачу мэту свайго прыезду.

ча, там, дзе цяпер знаходзіцца смажальня рыб. Зусім блізка адтуль была камендантура жандармерыі. Мы вязлі радыёстанцыю возам. Яна была накрыта саломай. Ужо выязджалі мы з горада, калі падыйшоў да воза немец. Ён хацеў, каб мы падвязлі яго да Відава. І так праехаў ён, не ведаючы на чым.

І цётка Насця засмяялася. А я запытаў яшчэ, як яна трапіла ў партызаны.

— Проста. У Відаве жылі Лапін і Архіпаў. Мы з імі добра жылі. Архіпаву немцы арыштавалі жонку, дзяцей і маці. Каб не арыштавалі і самога, ён пайшоў у партызаны. І так, у 1942 годзе з яго дапамогай я навязала сувязь з партызанамі. Я таксама была сувязной. Прыносіла партызанам нафту, лякарствы, газеты, папяросы. Аддала аўтамат, які застаўся ў нас з 1941 года.

— Якія былі вашы кантакты з партызанамі?

— Да нас прыходзілі чатыры групы: атрад імя

# АДНА СУСТРЭЧА

— А, то ты гэтага! А я і не ведала, што ты пра нас ведаеш. Пішы, пішы, калі хочаш. Ты ўжо і пішаш. Бацька чытаў твае артыкулы і ніяк не мог дабіцца, хто гэта. Я яму растлумачыла. Давай, зойдзем у хату. Там я табе ўсё раскажу.

Увайшлі ў хату. Тут нядаўна правялі электрычнасць. Цётка Насця хутка ідзе да крадэнса. Вымае жмут розных папераў. Паказвае каляровыя паштоўкі з Савецкага Саюза: „Гэта мне былыя партызаны прысылаюць з Днём пабеды“. На адной чытаю, што — піша Ліда. Пытаю ў цёткі, якое ў Ліды прозвішча?

— Гэта Ліда Глухоўская, медсястра з партызанскага атрада. Апрача яе я ведаю Соню — прозвішча забыла, і Дусю. З Дусяй пазнаёмілася ў красавіку 1944 года. Яе скінулі на парашуце, разам з пятнаццацю таварышамі, недзе ў Ліпічанскай пушчы. А сюды яна прыйшла з пяццю таварышамі, 6 красавіка. Дуся была радзісткай. Я і мой брат Сёмка атрымалі тады заданне прывезці з Бельска радыёстанцыю. Яна была ў Міхала Амельчанкі, які жыў ля вуліцы Міцкеві-

Дзяржынскага, які дзейнічаў на поўнач ад Бельска, атрад імя Пархоменкі, які ваяваў у ваколіцах Боцькаў, атрад імя Жукава з-пад Бранска і спецгрупа „Слава“.

У далейшай размове цётка расказала яшчэ адну цікавую гісторыю.

— Партызаны спалілі мост на Арлянцы, за Гаадамі, і прыйшлі да нас адпачыць. Гэта была група ў трынаццаць чалавек. Сёмка завёў іх у гумно. Аж тут бачым, стае нямецкая машына. Адзін немец ідзе дзесьці на Бельск, а другі валіць проста да нас. Сёмка хутка скочыў да гумна. Сказаў, каб там сядзелі ціха і замкнуў іх на замок. Аказалася, што немцам бракавала бензіну. Мы далі немцу есці і ён пайшоў.

— А як вам цяпер жывецца?

— Добра. Абрабляю крыху зямлі. Гадую дзве дойныя каровы, цёлку і быка. Ад 1968 года належу разам з бацькам да ЗБоВіД-у.

Многа, вельмі многа даведаўся я за адзін вечар.

Валянцін Анапюк

# ЛЁС БАБУЛІ ПАРАСКЕВЫ

Аб цяжкіх умовах жыцця 93-гадовай бабулі Параскевы Агейчык з Гарадка напісаў у рэдакцыю наш карэспандэнт Юрка Паплаўскі. З журналісцкага абавязку мы паехалі да грам. П. Агейчык. Жыве яна ў палавіне старой хаты ля вул. Балотнай 6. Увайшлі ў хату. Столь у зацёках, мокрая. Паколькі дах дзіравы, у час ападкаў так і льецца вада на бабулін ложак. Ляжыць яна ў ім, знямоглая гадамі і рэдка калі паднімаецца. У памяшканні цэлымі гадамі накапліваецца бруд. Яно вельмі запушчанае. Грыб знішчыў падлогу. Са сцен ападае тоўстымі кавалкамі тынк. У вокнах брудныя, маленькія шыбіны і ні следу фіранкі ці якой-колечы заслонкі. У гэтым брудзе, дзе ўсё наскрозь вільготнае і слізкае, завяліся блохі і што яшчэ толькі. Рэдка хто сюды заходзіць. Журналіст таксама пацярпеў ад гэтых маленькіх, але ж вельмі назойлівых і дакучлівых насякомых. Цярпеў, аднак з абавязку. Бабулю П. Агейчык наведаў два разы. Спачуваў ён і слухаў яе доўгіх расказаў пра асабістае, больш светлае колішняе жыццё. Расказвала бабуля, як у вайну прыгарнула трое сірот: дзве дзяўчынкі ды хлопчыка. Зараз яны жывуць далёка. Усе выйшлі на сваё. Нават пісьмы бабуль-

цы прысылаюць і аб здароў'і цікавяцца. А ўжо найболыш адна яе, самая любімая дзяўчынка, якая замужам у Варшаве. Доўгі расказ вядзе мая субяседніца пра сваё сямейнае жыццё, пра сваіх дзяцей і пра мужа, якога змагла цяжкая хвароба і ён памёр, калі яшчэ ўласныя дзеці былі малыя. Гляджу я, разглядаюся па пакойчыку. Як жа бедна тут. Часамі ўстане бабуля, ступіць пару крокаў і адпачывае. Няма чаго і думаць, каб хапіла ёй сіл замесці падлогу (у спальні сын зрабіў бетон, бо грыб знішчыў дошкі). Што крыху з'есць бабуля, то ўжо і не мае сілаў прыпарадкаваць. Малако і хлеб прыносіць сын. Крыху стравы прыносіць літасцівыя суседзі. Загляне на часіну суседка Вольга Яроцкая. Але ненадоўга, бо некуды спяшаецца. Вядома, у яе свой клопат. А бабуля ляжыць адзінокая. А дзень такі бясконца доўгі. — Вось бы хутчэй памерці. Нікому я непатрэбная. Ніхто не хоча да мяне зайсці. Усе чужаюцца мяне. Вось, хаця б сынавая. Тая ніколі не прыйшла. Часамі спытае ў сына, ці ўжо не памерла старая? Крыўдна мне. Балюча і вельмі крыўдна. Вось, каб ведалі, якая ў мяне сынавая...

(Працяг на стар. 4)

Наша галерэя



І. Мірочнік. Кружка (дрэва, точанка)

## ВЕР-НЕ ВЕР

### ПАДАРУНАК, ДОКТАР І ЖАНЧЫНЫ Ў ЧОРНЫМ

Сніцца мне такое. Жонка мая хворая. Прыходзіць наш знаёмы. Уручае жонцы падарунак і просіць лячыць яго (жонка — нібы лекар). Жонка адмаўляецца ад падарунка. Пачынае абследваць гэтага знаёмага. Ён плача. Прыкра мне не ад яго плачу, а ад таго, што ён хацеў „купіць" нас падарункам. Чаму не прыйшоў як сябра? Выходжу з хаты. Непадалёку стаіць ровар знаёмага, які прыйшоў да нас. Пакатаюся! Але ровар без руля; гаспадар выняў руль, каб не ўкралі ровар. Недзе тут, відаць, схаваў. Разглядаюся па карчах. Потым бачу: руль на плоце, але адхацелася ездзіць (ад думкі, што знаёмы схаваў руль ад нас). Пералажу цераз плот. Адхон. Гарыстая мясцовасць. Нейкія бабы. Адна, у чорным, доіць карову. Другая ляжыць — старая і брыдкая. Тая, што ў чорным, таксама лягла — брыдкая, з мужчынскімі рысамі.

Баюся, што сон мой прадвяшчае нешта дрэннае.

**С. В. з Беластока**

Дарагі наш чытач! Сон ваш якраз не такі ўжо благі. Наведванне хворых — гэта неспадзяваная радасць. Пацвярджае гэта і тое, што жонка ваша атрымала падарунак. Шкада, што не прыняла яго. Плач абазначае таксама нейкую сямейную радасць. А тое, што жонка ў сне была доктарам — вяселле, баль, тэатр, адным словам, нешта вясёлае. Баюся, што не з усяго гэтага вы скарыстаеце. Калі б удалося вам пакатацца — абазначала б гэта, што будзеце весела праводзіць час. Вы ж спачатку не маглі катацца на веласіпедзе без руля, а пасля вам зусім адхацелася гэтага. Гарыстая мясцовасць і адхон прадказваюць нейкія цяжкасці ў вашых справах, а старыя і брыдкія жанчыны, ды яшчэ ў чорным, прадвяшчаюць усё ж у гэтай весялосці нейкі смутак.

**Астрон**

## Сэрдэчныя тайны

*Дарагое „Сэрцайка"!*

У мінулым годзе пазнаёміўся я з Аляй. Спадабалася мне з першага погляду. Мы часта спатыкаліся, бо я вучыўся ў тым жа горадзе, дзе жыве Аля. Мы нават гаварылі аб супольным жыцці, намерваліся ў будучыні пажаніцца. На іншых дзяўчат я ўвогуле не звяртаў увагі. І ніколі не думаў, што можа мне спадабацца іншая дзяўчына. Але, закончыўшы школу, я выехаў на працу ў далёкі горад — аж над мора. Да Алі было мне далёка, я наведаў яе толькі два разы. Пісьмы пісалі мы даволі часта. Але зось тут я спаткаў Ірэну. Мы пайшлі ў кіно, у кавярню і я адчуў, што ўжо не цягне мяне да Алі. Маё сэрца нахілілася да Ірэны. Перастаў я і пісьмы да Алі пісаць. Тады яна сама да мяне напісала. Пытала, што сталася, чаму маўчу. Я не напісаў ёй праўды, сказаў, што вельмі заняты, не маю часу. Цяпер баюся, каб ізноў да мяне не напісала, бо як я выкручуся? Ірэна аб нічым не ведае. Ды цяпер я толькі яе кахаю. Але непакоіць мяне і яшчэ адна справа. Неўзабаве, восенню, я пайду ў войска. Як застаўлю я Ірэну? Ці будзе яна чакаць мяне, пакуль вярнуся? Ці не пакахае яна іншага хлопца? Хіба найлепш было б зараз ажаніцца, пакуль я яшчэ дома. А што ты, „Сэрцайка", мне параіш?

**Генік з Гданьска**

**Генік!** Жаніцца, дык я не раю табе. Ты непакоішся пра дзяўчыну, а ці задумаўся ты над сабой? Адлучышся ад яе на два гады. Невядома, ці не сустрэнеш іншай, якая табе яшчэ больш спадабаецца, чым Ірэна, так, як сталася ў цябе з Аляй. Ты яшчэ малады. У гэтых гадах пачуцці яшчэ хісткія, зменлівыя. Сёння падабаецца адна, заўтра — другая. А якраз праз два гады абое зможаце пераканацца, ці вашы пачуцці трывалыя. Тады і зможаце спакойна пажаніцца.

Яшчэ хачу звярнуць табе ўвагу на другою справу. Ты не ў парадку ў адносінах да Алі. Робіш не як мужчына, але як — трус! Пакінуць дзяўчыну, дык адвагі табе хапіла, але адкрыта прызнацца, сказаць праўду, дык ты ўжо не адважваешся? Брыдка гэтак!

**„Сэрцайка"**



## ФОТА ПА ЗАКАЗУ ★ TRUBADURZY ★

*Заказвалі: Коля Красько з Ягаднік, М. Лейчук з Тыневіч Вялікіх, Галіна Ювзюк з Барысаўкі, Марыя Гжэсь.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Н. С. меў гаспадарку па бацьку. Ён ажаніўся з Т.К., удавой, у якой быў сын — ад папярэдняга мужа. У іх нарадзілася дачка. Н. С. памёр у 1970 годзе, а Т.К. — год пасля. Ці дзеці іхмаюць аднолькавае права да гаспадаркі? Яны пражываюць на спадчыннай гаспадарцы. Паколькі Т. К. пражывала з мужам больш трыццаці год, то ці можна лічыць, што яна праз даўнасць набыла такія самыя правы, як і муж?

АДКАЗ: Праз даўнасць можа набыць маёмасць толькі той, хто самастойна карыстаецца ёю, як уласнік. Жонка не была самастойным карыстальнікам гаспадаркі і таму ўласнасці праз даўнасць не набыла. Пасля смерці мужа, спадчыннікамі яго засталася жонка і дачка — па палове. Пасля ж смерці жонкі, спадчыннікамі яе з'яўляюцца дзеці, г.зн. сын ад першага яе мужа і — дачка. Таму дачка атрымала, апрача палавіны спадчыны па бацьку — палавіну той часці, якую яе маці атрымала па мужу, г. зн. яна атрымае 3/4 часткі гаспадаркі, а сын атрымае толькі 1/4 частку.



ЭТНАГРАФІЧНАЕ АКЕНЦА
*Вадзяны млын у Ратаўцы.*
*Фота М. Гайдука.*

## Куток практычных ведаў

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### Хуткія стравы на гарачыя дні палявых работ

**МАКАРОН З СЫРАМ**

На 40 дэкаў макарону трэба ўзяць 25 дэкаў сыра і крыху сала.

Гарачы, адцэджаны макарон пасыпаць раскрышаным сырам, паліць гарачым тлушчам са скваркамі. Замест сkварак можна макарон паліць смятанай і пасыпаць цукрам. Можна таксама замест белага сыра выкарыстаць сцерты на тарцы жоўты сыр. Гэтую страву можна есці з сырым салатам са сцертай морквы.

**МАКАРОН З ЯЕЧКАМІ І ШПІНАТАМ**

На 30 дэкаў макарону ўзяць 80 дэкаў шпінату, лыжку тлушчу, 2—3 чайныя лыжачкі мукі, 1 шклянку малака, часнок, соль, 5 яечак.

Шпінат абварыць у вялікай колькасці вады ў адкрытым посудзе, адцадзіць, пасячы. Зрабіць светлую засмажку з мукі і тлушчу, развесці малаком, у соус дадаць шпінат, вымяшаць, закіпяціць, дадаць солі і часнаку. Звараны макарон разагрэць на тлушчы, убіць туды яечкі, падсмажыць. Вылажыць макарон з яечкамі на талеркі, на кожную талерку палажыць па лыжцы шпінату.

**МАКАРОН З ТАМАТНЫМ СОУСАМ**

На 30 дэкаў макарону ўзяць 5 яечак, лыжку масла, 2 чайныя лыжачкі мукі, паўшклянкі смятаны, 1 лыжку таматнага канцэнтрату, цукар, укроп.

Зрабіць светлую засмажку з масла і мукі, развесці смятанай і булёнам ці вадой (не больш 2 шклянак), закіпяціць. У кіпячы соус асцярожна ўбіць яечкі, не мяшаць; калі бялок зварыцца, а жаўток яшчэ будзе рэдкі, разлажыць на талеркі гарачы макарон і паліць яго соусам так, каб на кожную талерку прыпала адно яечка. Падаваць з зялёнай салатай са смятанай.

**МАКАРОН З МАЛАДОЙ КАПУСТАЙ**

На 30 дэкаў макарону трэба ўзяць адну галоўку маладой капусты, 1 цыбуліну, 1 лыжку тлушчу, 10 дэкаў грудзінкі, укроп, перац.

Маладую капусту даволі тоўста нарэзаць, заліць вадой з малаком у такой колькасці, каб вадкасць выпарылася ў часе варкі, дадаць тлушч, соль, цыбулю, зварыць. Звараны макарон палажыць у капусту, нагрэць. Пасыпаць зялёным укропам і паліць падсмажанай грудзінкай.

**Гаспадыня**




За пакутную ноч памутнела яго свядомасць, і Валока не адразу ўцяміў, дзе ён і што з ім сталася.

Перш-наперш яго здзівіла блізкая, устрывожаная страляніна. Недзе таропка патрэсквалі аўтаматныя чэргі, бахалі вінтоўкі. Аднойчы нават данёсся крык, але Валока не зразумеў, у якім баку ён раздаўся. Перамагаючы санлівую аслабеласць, баец расплюшчыў вочы.

У склепе было светлавата. Па-над сцяной, дзе яны выдзіралі зломак, ляжала новая куча друзу, — відаць, тая, што абрынулася на яго, — і над ёю яркім дзённым святлом блішчала дзірка. Валоку адразу скаланула радаснае імкненне, ён тузануўся ў доле, сеў, але боль у галаве прымусіў яго пакутна схіліцца набок.

Як-колечы ён, аднак, утрымаўся, перамог слабасць, трошкі аддыхаўся і паварушыў у ботах адубелыя ад сцюжы ногі. Пасля ён усё ж сеў і паволі падняў галаву, абкручаную нейкай анучай, шкумат якой звісаў каля вуха. Валока асцярожна памацаў гэты скрываўлены цюрбан і тады, ураз прыпамятаўшы, што з ім сталася, з удзячнасцю падумаў пра немца.

Фрыц Хагеман сядзеў побач, прысланіўшыся спіной да пагнутае бэлькі, і спаў. Галава яго звесілася на плячо, валасы растрапаліся, ніжняя губа адтапырылася. Шчаціннe на яго шчоках за ноч пабольшала, і ўвесь ён выглядаў вельмі стомленым, пажылым чалавекам. Ля яго ног стаяла каска з рэштаю вады. Валока адразу памкнуўся за ёю, але, узяўшы ў рукі, зноў апусціў на зямлю. Вада дужа смярдзела потам, і байца ледзь не зблажыла. Гэта была нямецкая салдацкая каска, сотні якіх валяліся на месцах баёў; хлопцы іх заўжды адкідвалі з-пад ног ботамі, — тым больш, што траляліся акрываўленыя, прастрэленыя, усякія. Каска адразу напомніла байцу пра варожае і агіднае.

Валока паморшчыўся, зноў прыслухаўся і агледзеўся. У куце за прыступкамі, на закіданай друзам падлозе, цямнела вільготная пляма, і чуваць было, як мерна капае недзе вада: кап-кап. З трубы, пэўна, падумаў Валока, і зноў паглядзеў на немца. Відаць, прытаміўшыся за ноч, той моцна спаў, і баец стаў напружана думаць у цішы, што яму рабіць далей.

Трэба вылазіць. Здаецца, ён здолеў бы сам як-небудзь выкараскацца адсюль — дзірка ёсць, — што яму цяпер немец! Хай спіць, а прачнецца — хай сам дбае; без яго Валоку спакайней, ды і бяды менш будзе. Толькі... Толькі хто там, наверсе? Страляніна, здавалася, яшчэ болей пашыралася — чутна стала і ў адным баку, і ў другім, раз за разам непадалёк гахнулі тры выбухі. Хто гэта? Нашы? А калі немцы? Калі немцы — яму будзе кепска з яго праламанаю галавой, а калі нашы — пападзе немцу. Нарвецца на якога аўтаматчыка, не паспее і рук падняць, як той прашые яго чаргой. Хлопцы ёсць бязлітасныя, у многіх свежыя раны ў сэрцы — усё можа стацца.

Не, прыйдзецца, відаць, разам — здаць Фрыца ў палон, і на душы будзе спакайней.

Так разважаючы, Валока сядзеў каля немца і азіраў таго, соннага, без асаблівай варожасці да яго і без вялікай прыязнасці. У начы было інакш — ён бачыў толькі яго асветлены запальнічкаю, звычайны, як і ва ўсіх, чалавечы твар, — а цяпер перад ім сядзеў немец у прапыленым, з адарваным пагонам мундзіры, у нізкіх скураных ботах, побач валялася ягоная каска з арлом на баку, не хапала толькі нямецкага аўтамата. Валокаў ППШ ляжаў зводдаль, і баец па салдацкай звычцы пацягнуўся да яго рукой, зачапіў за пачапку і павалок да сябе. Магазін заскрыгаў па жарствянаму долу, і немец, раптам абарваўшы мернае роўнае дыханне, прачнуўся.

Спачатку ён таксама, відаць, збянтэжыўся, залыпаў вачмі, а затым, пазнаўшы байца, усміхнуўся і трохі здзіўлена азваўся:

— О, Іван, лебенд? Гут, гут.

Заўважыўшы, што Валока прыбраў сабе аўтамат, ён заклапочана варухнуў бровамі. У вачах адбіўся кароценькі неспакой, але ён зараз ж падавіў яго і зноў бадзёра, стараючыся як мага выразна вымаўляць кожнае слова, сказаў:

— Можна ідзі. Туда ідзі. Дзверы туда іх махен...

— Дзверы?

Валока хацеў усміхнуцца, але ў галаве ўраз балюча кальнула, і твар яго зморшчыўся ў пакутнай грымасе.

— Болна?

— Ладна, — паморшчыўся баец. — Жывы будзем — не памром.

(Працяг будзе)

